

Жыве Беларусь!

# Народная Газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№147 (660) 29 ліпеня 1993 г. Чацвер. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Тыраж 502252 экз. Кошт у розніцу — 10 руб.


## Мы прыйдзем да Беларусі!

### Выступленне Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслава Шушкевіча па Беларускім тэлебачанні і радыё 27 ліпеня 1993 года

Паважаныя суайчыннікі!

27 ліпеня спаўняецца тры гады з дня прыняцця Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі, тры гады нашай самастойнасці. У сувязі з гэтым хочацца прыгадаць некаторыя старонкі нашага летапісу.

Большая частка нашай гісторыі — гісторыя саюзаў. Галоўныя з іх — чатыры.

Першы. Саюз і міжусобіцы з Кіеўскай Руссю — Полацкае княства.

Другі. Саюз і ўзаемазаваёвы з народамі сучаснай Літвы, перыяд супрацьстаяння манголам і крыжаносцам, перыяд пастаянных сутычак з Маскоўскай дзяржавай, або Вялікае княства Літоўскае, Жамойцкае і Рускае.

Трэці. Саюз беларускага, літоўскага і польскага народаў, перыяд росквіту нашай дзяржавы, перыяд яе ўпадку, адыходу ад беларускай мовы, пераход да мовы польскай, або Унія Вялікага княства Літоўскага і Польскага Каралеўства.

Чацвёрты. Паўночна-Заходні край, спачатку Расійскай, а пасля савецкай імперыі. Перыяд далучэння да вялікай рускай культуры і перыяд заняпаду беларускай культуры, перыяд будаўніцтва нашай сучаснай эканомікі і перыяд страшэнных рэпрэсій...

Кожны з гэтых перыядаў, з гэтых саюзаў па-свойму гераічны, трагічны і супярэчлівы, кожны мае чорныя і светлыя імгненні.

Нашы продкі жылі па законах свайго часу, перамагалі і былі пераможанымі, падпарадкоўвалі сабе іншых і былі падпарадкаванымі... Не будзем іх судзіць па мерках сучаснасці, не будзем будаваць нашу новую гісторыю ў адпаведнасці з той або іншай канцэпцыяй мінулага...

Мы жылі ў адной сям'і і з Расіяй, і з Літвой, і з Польшчай, і з Кіеўскай Руссю. Як і ў любой сям'і, былі і цудоўныя старонкі, былі і канфлікты. Вельмі важна, каб наша гісторыя ва ўсёй яе паўнаце не перашкаджала будаваць новыя адносіны з дэмакратычнымі суседзямі.

(Заканчэнне на 2-й стар.)

## ФАКС

### Вкратце

**На очередном заседании координационного Комитета народного движения республики создана организационная группа по подготовке и проведению конгресса народов Беларуси, который намечен на начало сентября.**

Одна из основных задач конгресса — выработка совместных подходов в решении задач по обеспечению стабильности в республике, социальной защите населения.

❑

**В Новополоцке состоялась научно-практическая конференция по проблемам государственного строя Беларуси.**

Как заявил председатель ОДПБ Александр Добровольский, проведенная конференция способствовала большему пониманию на местах позиции ОДПБ, социально-политической ситуации в республике и установлению контактов.

❑

**С нового учебного года в Минске увеличится число белорусскоязычных учебных заведений.**

Согласно решению Мингорисполкома, с 1 сентября 1993 года 32 средние общеобразовательные школы и школа-лицей N 165 с русским языком обучения реорганизуются в школы с белорусским языком обучения.

❑

**Третий день в столице Польши работает национальная выставка промышленных товаров "Беларусь-93".**

В церемонии открытия экспозиции участвовал Чрезвычайный и Полномочный Посол Беларуси в Польше Владимир Сенько.

❑

**Пути выхода страны из кризиса обсудит всероссийское экономическое совещание, которое открылось в Москве в парламентском центре.**

Как ожидается, совещание выработает рекомендации, призванные внести существенные коррективы в ход осуществления экономической реформы.

❑

**27 июля в учебном центре под Заславлем отмечали сразу два праздника — день независимости Беларуси и принятие присяги молодыми солдатами внутренних войск.**

Большой интерес к пополнению, набранному только из белорусских парней, проявили и МВД в лице заместителя министра Константина Платонова, и ветераны внутренних войск, которые отправляли в свои батальоны уже внуков, и журналисты.

### У Литвы свои денежные проблемы

**Обмен временных денег на национальную валюту прошел без осложнений.**

Уже несколько месяцев почти не изменяется стоимость товаров и услуг. Стабилизировался курс американского доллара — около 4 литов. Президент республики А.Бразаускас, премьер А.Шляжявичус и председатель Литовского банка Р.Висакявичус раздают интервью и высказывают удовлетворение подготовкой ко введению лита избранными средствами и методикой. Единственное, что их огорчает, — это качество и технические характеристики самих денег.

**Андрей КОРСАК.**

### Не упустить бы шанс!

**В Абхазии вступило в силу соглашение о прекращении огня между грузинскими войсками и абхазскими формированиями.**

В пресс-центре Министерства обороны Грузии корреспонденту агентства Рейтер сообщили, что с 11.00 вчерашнего дня, когда перемирие вступило в силу, обе стороны соблюдают его.

### А у них против низких цен борются...

**Несколько сот французских фермеров разгромили 10 грузовиков, груженных импортным мясом, фруктами и овощами, в знак протеста против низких цен на импорт.**

Французские фермеры протестуют против того, что им приходится уничтожать свою избыточную продукцию, которая и так "идет" по низким ценам, в то время как правительство продолжает закупать товары за рубежом.

### Кровь за кровь?..

**Вчера утром израильские вооруженные силы продолжали военные действия в южном Ливане.**

По сообщению израильских и ливанских источников, израильская авиация, военные катера и артиллерия обстреляли ряд деревень в южном Ливане, вынудив еще большее число людей бежать из региона. Израиль начал военные действия в воскресенье, заявив, что предпринял их в качестве возмездия за гибель семерых израильских военнослужащих.

### Успенская горка в роли кавказской

**В самом центре Витебска, на Успенской горке над Западной Двиной, тренируются скалолазы областного турклуба. Они покоряют... стены бывшего завода заточных станков, которые пустуют вот уже около 25 лет.**

После того, как предприятие переехало в более просторные корпуса, старой многоэтажке впервые найдено применение. Не потому, что лучшего места нет. Просто настоящие горы стали труднодоступными во всех смыслах слова.

**Степан СТАРОЖИЛ.**

### Брестская "малина" приоделась и запахла

**Самое крупное за последнее время ограбление зарегистрировано в Бресте.**

Ночью злоумышленниками "взята" республиканская база "Белимпортторг". После отключения сигнализации с базы вывезено одежды, обуви и парфюмерии на сумму порядка 60 миллионов рублей.

**Василий ВИКТОРОВИЧ.**

### Для них война не отгремела

**То, до чего почти полвека не доходили отнюдь не короткие руки Минобороны СССР, взялось осуществить белорусское войско.**

Началось наконец сплошное разминирование бывшей линии фронта, которая проходила по территории нашей республики в 1944 году, на первом этапе освободительной операции "Багратион".

Полевой лагерь инженерной роты, сформированной в основном из воинов запаса, разместился в Дубровенском районе. Вдоль магистрали Брест—Москва уже обнаружены сотни неразорвавшихся мин и артиллерийских снарядов.

**Сергей СЕРГЕЕВ.**

### Вагончик тронулся...

Состоялись матчи 2-го тура национального чемпионата Беларуси по футболу. Вот их результаты: "Динамо-93" — "Фандок" — 0:0, "Шинник" — "Локомотив" — 1:0, "Молодечно" — "Шахтер" — 1:0, "Строитель" — "Гомсельмаш" — 2:1, "Ведрич" — "Торпедо" (Мн) — 2:0, "Динамо" (Мн) — "Торпедо" (Мг) — 2:0, "КИМ" — "Динамо" (Бр) — 3:0, "Неман" — "Днепр" — 0:2.

**Положение команд после 2-го тура**

| | И | В | Н | П | М | О |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Динамо (Мн) | 2 | 2 | 0 | 0 | 4:1 | 4 |
| Шинник | 2 | 2 | 0 | 0 | 3:0 | 4 |
| КИМ | 2 | 1 | 1 | 0 | 3:0 | 3 |
| Динамо-93 | 2 | 1 | 1 | 0 | 1:0 | 3 |
| Шахтер | 2 | 1 | 0 | 1 | 3:1 | 2 |
| Гомсельмаш | 2 | 1 | 0 | 1 | 3:2 | 2 |
| Ведрич | 2 | 1 | 0 | 1 | 2:2 | 2 |
| Днепр | 2 | 1 | 0 | 1 | 2:2 | 2 |
| Локомотив | 2 | 1 | 0 | 1 | 1:1 | 2 |
| Молодечно | 2 | 1 | 0 | 1 | 1:1 | 2 |
| Строитель | 2 | 1 | 0 | 1 | 2:4 | 2 |
| Фандок | 2 | 0 | 2 | 0 | 0:0 | 2 |
| Неман | 2 | 0 | 1 | 1 | 0:2 | 1 |
| Торпедо (Мг) | 2 | 0 | 1 | 1 | 0:2 | 1 |
| Торпедо (Мн) | 2 | 0 | 0 | 2 | 1:4 | 0 |
| Динамо (Бр) | 2 | 0 | 0 | 2 | 0:4 | 0 |

### Спорт-экспресс

Мастера конного спорта Бельгии, Голландии, Швейцарии, Германии, США и Беларуси провели увлекательные соревнования в Ратомке, под Минском.

Выездка и конкур не выявили явного командного лидера. Первое — третье места поделили команды Бельгии, Германии и Беларуси.

❑

Капитан ФК "Молодечно" Александр Вяжевич отправляется 3 августа на просмотр в Израиль.

Выпуск подготовлен по сообщениям корреспондентов "Народной газеты", агентств ИТАР—ТАСС, Белинформ, Интерфакс, БелаПАН и РИД.

*Рэха*

## Такая блізкая Амерыка...



**Павел СТАСЕВІЧ,**
**аглядальнік "Народнай газеты"**

Злучаныя Штаты афіцыйнымі візітамі не здзівіш — вялікая і магутная краіна бачыла іх на сваім вяку дастаткова. Бачыць і зараз: гасцявая рэзідэнцыя прэзідэнта — Блэйр хаўз — "працуе" амаль бесперапынна.

Тры дні ў яе на тым тыдні былі, як вядома, беларускімі. Амерыканская сталіца прымала першую афіцыйную дзяржаўную дэлегацыю незалежнай Беларусі на чале са Старшынёй Вярхоўнага Савета Станіславам Шушкевічам.

Прычым прымала пачэсна і, як падкрэсліў С.Шушкевіч у час сустрэчы з амерыканскімі журналістамі ў апошні дзень візіту, выключна цёпла. А што тычыцца цырымоніі сустрэчы ў Пентагоне, то, зноў жа па ацэнцы С.Шушкевіча, яна была проста "сногсшибательной" — такога прыёму беларусы проста не чакалі...

Можна, канешне, думаць, што амерыканскі бок вырашыў паказаць "хто ёсць хто". Але ж, як сведка, магу зазначыць другое: амерыканцы ўмеюць паважаць і сябе, і іншых.

А павага да нашай рэспублікі, калі падсумаваць усе выказаныя меркаванні ў час афіцыйных і неафіцыйных сустрэч, трымаецца на некалькіх галоўных "кітах": больш-менш стабільным сацыяльна-палітычным становішчы; зразумелай палітыцы, накіраванай на бяз'ядзернасць і нейтралітэт; выбраным шляху да рынку.

Без цяжкасцей і праблем, зразумела, тут мы не абыходзіліся. Амерыканцы гэта ведаюць. Адсюль і тая матэрыяльная і фінансавая дапамога, якая Беларусі будзе аказвацца з боку ЗША.

Пры ўмове, канешне, зноў жа нашай стабільнасці і, што таксама падкрэслівалася, добрасуседскіх адносін з Расіяй, іншымі краінамі СНД.

Усё гэта патрэбна ў першую чаргу нам самім, і амерыканскі бок, адчувалася, таксама паверыў у шчырасць беларусаў. Адсюль, па-мойму, і той салідны палітыка-эканамічны багаж, які прывезла з ЗША наша дзяржаўная дэлегацыя. Ён, гэты багаж, толькі-толькі пачынае "распакоўвацца", і гаворка пра яго больш дэтальна будзе, відаць, яшчэ не раз ісці на старонках нашага друку.

Што ж тычыцца ўражанняў наконт жыццёва-бытавога боку Вашынгтона, то пра ўсё збольшага мы раскажам трохі пазней, у асобных рэпартажах.

А першы афіцыйны візіт нашай дзяржаўнай дэлегацыі ўжо ўвайшоў у гісторыю. На добры ўспамін аб ім у Белым доме навечна застануцца вырабы майстроў Барысаўскага крыштальнага завода Таццяны і Пятра Арцёмавых — настольны прыбор і набор посуду, якія атрымалі прэзідэнт Біл Клінтан і яго жонка Хілары. (Аўтар адразу просіць прабачэння ў дырэктара Барысаўскага крыштальнага завода А.Караля і ўсіх работнікаў прадпрыемства за недакладнасць наконт аўтарства гэтых падарункаў, якая была дапушчана мною ў папярэднім рэпартажы.)

Адным словам — руку на дружбу, Амерыка! Пастараемся быць добрымі суседзямі, нават знаходзячыся на розных баках Зямлі...

*Вашынгтон — Мінск.*

**❑ На здымку:**

Белы дом. Станіслаў Шушкевіч і Біл Клінтан: першы поціск рук.

**Фота аўтара і Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**

*Пасля падзеі*

## Як Беларусь святкавала Дзень незалежнасці



— Да гэтага дня Беларусь рыхтавалася загадзя, — сказаў карэспандэнту "Народнай газеты" начальнік Упраўлення па справах сацыяльна-культурнага комплексу Савета Міністраў Пётр Пятровіч Кішкурна. — 23 ліпеня ў Акадэміі навук адбылася навуковая канферэнцыя, прысвечаная Дню незалежнасці. На наступны дзень у Беларускай дзяржаўнай філармоніі прайшло ўрачыстае пасяджэнне Вярхоўнага Савета, Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь, Мінскага гарвыканкама з удзелам прадстаўнікоў працоўных і грамадскасці горада, навуковай і творчай інтэлігенцыі, воінаў, ветэранаў, моладзі рэспублікі, а таксама прадстаўнікоў замежных дзяржаў, акрэдытаваных у Беларусі. З прывітальным словам да прысутных звярнуўся Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь В.Ф.Кебіч. На тэму "Суверэнітэт Беларусі: шляхі станаўлення" выступіў віцэ-прэзідэнт АН Беларусі Р.Г.Гарэцкі. Урачыстае пасяджэнне завяршылася святочным канцэртам майстроў мастацтваў рэспублікі.

27 ліпеня з 10 гадзін пачалося ўрачыстае ўскладанне кветак, вянкоў, гірляндаў да помнікаў, абеліскаў, іншых памятных месцаў, звязаных з гісторыяй Беларусі, у Мінску, абласных і раённых цэнтрах, іншых населеных пунктах рэспублікі. Затым на шматлікіх пляцоўках і імправізаваных сцэнах адбыліся канцэрты мастацкай самадзейнасці, выступленні фальклорных калектываў і г.д.

У месцах правядзення асноўных святочных мерапрыемстваў былі арганізаваны выставы-продажы кніг, нацыянальных сувеніраў, шырока прадстаўлены розныя вырабы народных майстроў, якімі славіцца кожны рэгіён рэспублікі.

Хацеў бы прывесці некалькі канкрэтных прыкладаў. У Гродне ў рамках святкавання Дня незалежнасці прайшоў першы абласны фестываль беларускай песні. 27 ліпеня пасля ўскладання кветак да мемарыяльных мясцін, звязаных з адраджэннем Беларусі, памяццю барацьбітоў за яе незалежнасць, адбылося адкрыццё мемарыяльнай дошкі на доме, дзе жыў Р.Р.Шырма — наш славуты харавы дырыжор, фальклярыст, захавальнік і прапагандыст народнага музычнага мастацтва. А вечарам на гарадскім стадыёне адбылося вялікае тэатралізаванае відовішча і ваенна-спартыўнае свята.

У Ваўкавыскім раёне актыўна рыхтаваліся да раённага свята песні. Святы фальклору і беларускай гульні прайшлі ў в.Вярэйкі і г.п.Рось.

У Віцебску 27 ліпеня адначасова святкавалі Дзень незалежнасці і Дзень заснавання горада. На плошчы 1000-годдзя горада адбылося тэатралізаванае прадстаўленне і святочны канцэрт "Жыве Беларусь". На плошчы Свабоды і ў мікрараёне Поўдзень прайшоў абласны фальклорна-абрадавы фестываль, у парку сямейнага адпачынку — свята для дзяцей.

У рамках фестывалю мастацтваў "Славянскі базар" у летнім амфітэатры Віцебска адбыўся вялікі святочны канцэрт майстроў мастацтваў Беларусі, прысвечаны спецыяльна Дню незалежнасці Рэспублікі Беларусь.

Акрамя шматлікіх культурна-масавых, тэатральна-відовішчных і спартыўных мерапрыемстваў, якія былі запланаваны на гэтыя святочныя дні, адбыліся цікавыя сустрэчы з творчай і навуковай інтэлігенцыяй, працаўнікамі вёскі, працавалі выставы самадзейных і прафесіянальных мастакоў, народных майстроў і г.д.

У гонар Дня незалежнасці Рэспублікі Беларусь адбыліся святочныя феерверкі ў гарадах Мінску, Віцебску, Брэсцкай крэпасці-герої.

Напрыканцы хацеў бы адзначыць, што абласнымі, гарадскімі і раённымі выканкамамі народных дэпутатаў праведзена сур'ёзная падрыхтоўка да нацыянальнага свята. Урачыстыя пасяджэнні, разнастайныя мерапрыемствы, прысвечаныя Дню незалежнасці, мелі сваю рэгіянальную адметнасць, а таму і цікавасць, і карысць для людзей, якія там жывуць і працуюць.

*Колонка Павла Якубовича*

## Цирроз совести, или Так раскалялась сталь

История донесла до нас один политический курьез, который вошел во все антологии американской парламентской жизни. Некий конгрессмен, наобещавший своим избирателям золотые горы и палец о палец не ударивший после достижения цели, предстал перед глазами разочарованных и разгневанных людей:

— В чем дело, сэр? Мы доверились вам, а вы?..

— Леди и джентльмены! Извините. Я солгал.

Этот циничный ответ настолько потряс избирателей, что они молча разошлись, но история, повторяю, стала широко известной. Но это у них. У нас на подобный пустячок никто бы вообще не обратил никакого внимания.

У нас, похоже, вранье стало нормой жизни.

Врут все... И со всех сторон.

Врут коммунисты, уверяя, что они готовы лечь под товарняк во имя интересов народа, хотя и раньше, когда были у власти, не особенно рвались жертвовать собой, а сейчас, почуя вкус красивой жизни, тем более! Врут многие из тех, кто называет себя демократом, заверяя, что они знают дорогу, ведущую к Храму, — знали бы, так не завели себя и других в чащу, куда уже еле-еле проникает солнечный луч. Как в Баку, например. Врут те, кто лезет в телеобъективы, чтобы все увидели их на литургии, со свечой в руках и при благостном выражении лица. Вчера ломали церкви и каленым железом выжигали религиозный дурман — завтра, почуя выгоду, выбросят вон нательный крестик и снова начнут ломать церкви. Врут монархисты, врут анархисты, врут и либеральные демократы...

Мало того, что врут, — так еще и воруют. Врут и воруют.

Не хочется сыпать соль на рану общественному мнению в связи с аферой Национального банка России. Но пару слов скажу, потому что большего цинизма и неуважения к народу не могло произойти нигде, кроме как на многострадальной территории, раскинувшейся от Буга до Курил. Дело даже не только в том, что всех — и русских, и белоруссов, и грузин, и армян, и...— пошло и вульгарно обманули, не только в том, что сегодня нет виноватых, а товарищ Хасбулатов, которому напрямую подчинен управляющий банком Геращенко, старается и здесь, на всеобщем позоре, набрать как можно больше весьма дурно пахнущих политических козырей. Дело даже и не в том, что "жирные коты", хорошо проинформированные заранее, в хорошем темпе скупили подешевевшие доллары и утроили за два дня свои состояния, а учителя, домохозяйки и пенсионеры давили друг друга в унизительных очередях. Для меня главный итог этой аферы заключается в том, что попрежнему плевать хотела сановная Москва на всех нас — на Беларусь, Армению и Туркменистан... Понадобилось верхушке провернуть таинственное и загадочное дело со "стабилизацией" рубля, и побоку государственные и по-настоящему жизненные интересы всех остальных стран СНГ. Итак, уважаемые читатели — а среди них, возможно, будут доверчивые директора заводов, ожидающие грандиозных поступлений нефти и металла по ценам десятилетней давности, активисты митингов, настаивающие на том, что весь свет в окошке может быть только из Москвы, а также персонально товарищ Качан, народный депутат и секретарь ЦК ПКБ, который тратит последний порох в пороховницах, убеждая всех и вся, что светлое будущее Беларуси целиком и полностью зависит от Кремля, — все мы снова остались при своих интересах! Не обижайтесь, тов. Качан, но и не обольщайтесь: политический дух Кремля таков, что как врали, так и будут продолжать. Что коммунист Павлов, что полудемократ Геращенко. Все едино. Вот почему, повторяю себе уже в сотый раз, нам нужно смелее торить собственную дорогу. Конечно, при этом следует иметь в виду, что дистанцироваться нужно не от простых россиян, не от Радищева и Маяковского, не от Зои Космодемьянской и генерала Бурдейного, а от того политического и нравственного стиля, который по эстафете передается от царей к генсекам и обратно. А праведников на Москве что-то не видать. Был один — Андрей Сахаров, да и того общими усилиями дружно загнали в могилу...

Врут по-большому и по-малому. И не только, впрочем, в Москве.

Хорошее дело задумал когда-то Игорь Лученок, организовавший в Витебске фестиваль "Славянский базар". Но во что выродилась идея? В сплошное вранье. Выходят "солисты", делают вид, что поют, а с пустой сцены, где нет и намека на оркестр, несутся через акустические колонки звуки скрипок, труб и гитар. Кого обманываем? Себя обманываем. Потому что не может никакая настоящая культура опираться на рахитичные ножки голого бизнеса и тотального неуважения к публике. Вообще-то публика не дура, и все она видит и изумляется. В том числе и по такому поводу: а почему это отец фестиваля Игорь Лученок вообще отсутствует в Витебске? Ответ, впрочем, ясен: Игорь Лученок — композитор, он пишет песни, его песни нужно петь, но не имитировать. Он будет мешать "новаторам" от шоу-бизнеса. А коль так, то обошлись без него. Вот и благородный по замыслу "Славянский базар"...

И после всего такого мы еще удивляемся, что подрастает у нас молодежь, у которой хорошие сентенции в одно ухо влетают, а из другого вылетают. Но кого винить? Масонов, марсиан? Нет! Сами же и виноваты. Успешно, изо всех сил раскаляем сталь.

